# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1683) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 14 ЖНІЎНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## МІТЫНГ ДРУЖБЫ

У другой палавіне ліпеня 1944 года пад націскам Савецкай Арміі ўцякалі немцы з Беласточчыны.

18 ліпеня 1944 г. воіны Гвардзейскай арміі пад камандаваннем генерала Паўла Батава прынеслі вызваленне Гайнаўцы. Закончыўся страшны перыяд нямецкай акупацыі.

44-ую гадавіну вызвалення гайнаўяне святкавалі разам з жыхарамі Свіслачы, вызваленай на дзень раней — 17 ліпеня 1944 г.

У час урачыстага адкрыцця сустрэчы ў цэнтры Гайнаўкі (17.07.) да двухсотасабовай дэле-

(Працяг на стар. 6)



*Урачыстая пераклічка загінуўшых.*

## СТАЛІН — ГЭТА ДРАКОН...

Пад такім загалоўкам ў 158 нумары мінскай „Звязды", у рубрыцы „Гісторыя без „белых плям", надрукавана размова спец. кар. А. Лукашука з савецкім гісторыкам Роем Мядзведзевым. Чытачам „Нівы" прапануем поўны тэкст гэтага інтэрв'ю.

*

**— Рой Аляксандравіч, Вас што, уся Масква ведае? Я перablытаў дамы і мне адразу ж, як пачулі Ваша імя, паказалі куды ісці...**

— Быў час, калі ля майго пад'езда дзяжурыў афіцэрскі нарад міліцыі. Вы б не паспелі вярнуцца ў Мінск, як ужо давялося б пісаць тлумачэнні, чаго да мяне прыязджалі...

*Так пачалася наша гутарка з Роем Мядзведзевым — савецкім гісторыкам, якога ведае ўвесь свет. Ведае, на жаль, куды лепш за нас. Больш як 20 кніг Мядзведзева за апошнія два дзесяцігоддзі вытрымалі на Захадзе каля 180 выданняў: яго працу „Да суда гісторыі", прысвечаную аналізу сталіншчыны, вывучаюць ва ўсіх буйных універсітэтах Еўропы і Амерыкі.*

*Год нараджэння Роя — 1925-ы. Імя бацькі выбралі ў гонар аднаго з заснавальнікаў індыйскай кампартыі, намесніка старшыні Камінтэрна (у роднага брата Роя таксама рэвалюцыйнае імя — Жарэс). У 1938 годзе бацька, паліткамісар, прафесар Ваенна-палітычнай акадэміі імя Леніна, быў арыштаваны, загінуў у 1941-м на Калыме. Пасля заканчэння ЛДУ Рой працаваў настаўнікам, дырэктарам школы. Потым — навукова-педагагічная работа, але галоўная, асабістая сфера інтарэсаў — сталінізм. У 60-я — усё больш халодныя адносіны і ўрэшце — выключэнне з партыі. Калі група старых бальшавікоў Масквы прыйшла на прыём да Грышына прасіць за Мядзведзева, той развёў рукамі: „У нас памянялася лінія ў адносінах да Сталіна".*

*Лінія самога Мядзведзева не памянялася. Невялікая, уся ў кнігах кааператыўная кватэра, дзе яны жывуць з жонкай Галінай Аляксандраўнай, на доўгія гады стала яго рабочым кабінетам...*

*Сёння працы Роя Мядзведзева рыхтуюцца да друку ў нашых выдавецтвах; ён быў у ліку 40 прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі, якія сустракаліся з Рональдам Рэйганам у час яго візіту ў Маскву; гісторыка наперабой запрашаюць на прадстаўнічыя прэс-канферэнцыі і „круглыя сталы". Заканамерна, што ў першую чаргу цікавяць яго ацэнкі і меркаванні пра 30-я гады, Сталіна, сённяшнюю перабудову.*

— Сваю сапраўдную гісторыю мы не ведаем. Калі ўзяць 30-я гады — ёсць праўдзівая гісторыя заваявання Паўночнага полюса, Паўночнага марского шляху... Няма нават перыядызацыі. Згадзіцца з афіцыяльнай, якая ўключае перыяд 1936—1941 гадоў у раздзел „Развіццё савецкай сацыялістычнай дэмакратыі і ўмацаванне сацыялізму", я ніяк не магу.

Сталін заявіў аб неабходнасці прабегчы адставанне ад развітых краін, іначай нас самнуць. Сёння той перыяд называюць па-рознаму: грубы, дэспатычны, казарменны сацыялізм. Думаю, больш правільна казаць — ілжэсацыялізм. Хіба лагеры, 10 мільёнаў зняволеных — сацыялізм? І ў той жа час сацыялізм быў ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, міжнацыянальных адносінах, ў народнай асвеце...

Я памятаю тыя жахліва супярэчлівыя гады, і ў мяне асабіста склалася такая перыядызацыя: да 1935 года; з 1936 да 1938; з 1939 да 1941. Гэтыя перыяды адчуваліся сучаснікамі па-рознаму.

**— Рой Аляксандравіч, чаму сёння асноўная ўвага даследчыкаў, грамадскасці звернута на 1937 год? Як вядома, вялікая колькасць людзей загінула, напрыклад, у час голаду пачатку 30-х...**

— Разумееце, трэба ўлічваць не толькі колькасць загінуўшых. Голад забраў 4 ці 5, ну можа, 6 мільёнаў чалавек — жудасная лічба! Але важна яшчэ ўлічваць і якасць рэпрэсій. 1937 — зусім не тое ж самае, што 1935-ы, калі, напрыклад, высялялі дваранскія сем'і з Масквы, хоць гэта таксама была незаконная акцыя. Але 1937—1938 гады засталіся ў народнай памяці як жахлівы час яжоўшчыны, калі было дазволена абсалютна ўсё, ніякіх абмежаванняў не існавала. Трэба вас разрэзаць на кавалкі — разрэжуць, трэба біць нагайкай — будуць біць. Прымянялася ўсё, што вяло да „прызнання" — царыцы доказаў. Нават рэжым у лагерах памяняўся: раней параўнаўча цярпімы, ён стаў рэжымам знішчэння — 70-80 працэнтаў зняволеных паміралі праз год. Ды і адкрытыя працэсы праходзілі ў гэты перыяд.

**— У мяне да Вас пытанне якраз наконт працэсаў. Мне прыходзілася пісаць у „Звяздзе" (№№ 114-116) пра былога першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Ф. Шаранговіча, ён праходзіў па аднаму працэсу з Бухарынам, Рыкавым...**

(Працяг на стар. 6)

 

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Алена Мімрык
Дзіяна Энціна




Працяг (4)

## ЯК РАТАВАЛІ БАБУЛЮ

— А вось што. Бачыце, у мяне на шыі вісіць амулет?

Доктар і Воля з цікавасцю паглядзелі на хлопчыка. Яны ўжо ведалі, што ён, як і многія кангалезцы, носіць на шыі нейкую выразаную з чорнага дрэва фігурку, і ўважліва прыглядзеліся да талісмана.

— Ой, дык гэта ж верхняя частка галавы кошкі! — усклікнула Воля.

— Сапраўды, гэта вушы і лоб кошкі. Усе мужчыны нашага племені носяць якую-небудзь частку кацінай галавы. Кошка — захавальнік нашага племені. А гісторыя з кошкай пачалася з бабулі маёй бабулі.

Прыйшоў час, яна павінна была легчы на цыноўку і чакаць прыходу „ненажэрнай". Вёска наша знаходзіцца недалёка ад ракі. У той вёсцы зусім мала сабак і курэй. Правадыр племені і іншыя мужчыны лавілі рыбу, а жанчыны вырошчвалі арахіс і маніёк.

Аднойчы ў вёсцы спынілася вялікая машына. У ёй сядзелі белыя людзі. Сярод іх была жанчына. Яна трымала на руках ката. Сам ён быў светлы. Вушы і хвост чорныя, а вочы блакітныя. Да машыны падбеглі дзеці, абступілі яе з усіх бакоў. Яны гучна крычалі і паказвалі пальцам на ката. Ён спалохаўся і падрапаў жанчыну. Яна войкнула, выпусціла ката. І ў гэты момант машына кранулася з месца.

Жыхары вёскі хацелі забіць ката з чорнымі вушамі. Ды бабуля маёй бабулі не дазволіла. Яна аднесла яго ў сваю хату, пачала даглядаць. Кот хадзіў за ёю і на поле, і на рэчку. Стаў вялікі, дужы, навучыўся лавіць пацукоў.

Калі прыйшоў час бабулі маёй бабулі класціся на цыноўку, ніхто не карміў ката. Удзень ён сядзеў побач са старой, а ўночы знікаў. Мінула дваццаць дзён, а бабуля ўсё не памірала. Яна нават усміхалася. Старэйшыны вёскі здзіўлена паціскалі плячыма, сустракаючыся адзін з адным. Ніхто не мог зразумець, чаму бабуля маёй бабулі так доўга жыве.

Аднойчы да правадыра племені прыйшоў са скаргай бацька адной сям'і. У яго прапаў маніёк, а след прывёў да хаціны правадыра — сына бабулі маёй бабулі. Ніхто не адважыўся ўвайсці да іх.

Цяпер, калі мінула дваццаць дзён, бабуля магла атрымаць ежу і зноў весці гаспадарку. Пазней, перад смерцю, яна папрасіла клапаціцца пра ката і сказала, што якраз ён выратаваў яе ад галоднай смерці. Кот забіраўся ў іншыя хаціны і прыносіў адтуль ежу для бабулі — матылёў, кажаноў, пацукоў, а таксама маніёк. Пра гэта мне расказала мая бабуля. Яна верыць, што і яе ахоўвае дух таго ката, які выратаваў ад голаду яе бабулю.

Мая бабуля ведае шмат сакрэтаў, якія адкрыла ёй яе бабуля. Яна ўмее лячыць людзей ад укусаў змей. Ведае, як захаваць вясёлым дух чалавека і адагнаць ад яго цяжкія думы. А яшчэ яна ведае траву, якая прыносіць чалавеку працяглы сон. Бабуля добрая, як рака.

Машына ўехала на ўтаптаную пляцоўку. Недалёка адна ад адной стаялі некалькі хацін. Накрытыя саломай і аплеценыя сухімі ліянамі, яны нагадвалі вялікія буданы з круглым верхам. Каля дзвюх хацін на крэслах з адкінутымі спінкамі сядзелі два пажылыя, цёмныя, як сухія ліяны, кангалезцы і курылі доўгія люлькі. Воддаль бе-

(Працяг на стар. 10)



*Удзельніцы конкурсу беларускай песні для школьнікаў сёстры Эва і Кася Карабкевічы з Нарвы.*

Фота Я. Чэрнякевіч.



*Ніка Бандарук — лаўрэатка конкурсу „Беларуская песня 88" для школьнікаў сярод наймалодшых.*

Фота Я. Чэрнякевіч.

Віктар Швед

### СМЕХ У МЕХ

Праз пушысты снег
Чорт рагаты бег.
І сустрэў ён на дарозе
Мех вялізны на марозе,
Паклікаў калег,
Развязалі мех.
І была тады ж усцеха
З гэтым поўным смеху мехам,
Было мноства ўсцех,
Рагатаў там смех.
Уцякалі хутка чэрці,
А за імі ўслед, паверце,
Таксама пабег
Іранічны смех.
І адгэтуль у балоце
Чэрці голасна рагочуць.
Там, дзе іх начлег,
З імі разам смех.
І баяцца сталі чэрці,
Што ад смеху можна ўмерці...
Цяжка зноўку смех
Увагнаць у мех.

### ЖАНОЧЫ РОД

Дапытлівы Саша
Надта ведаць хоча:
— Чаму Зямля наша
Род мае жаночы?

Адказаў на гэта
Здагадлівы Сёма:
— Таму што планеты
Узрост невядомы.

### ЦІ МАГУ Я ПАГУЛЯЦЬ, МАТУЛЯ?

З панадворка ўбег у хату Янка,
Каб матулі просьбу перадаць:
— Ты дазволь, мая матуля, зранку
Мне яшчэ хвіліну пагуляць.

— Ды гуляць ты хочаш, хуліганішча,
З гэтай свежай дзіркай у штанах?
— Не, матуля, — адазваўся Ваня, —
Там чакаюць Яраслаў і Стах.

### СКАЗЫ ГАЛОЎНЫ І ДАДАНЫ

Настаўнік беларускай мовы
На ўроку запытаў Івана:
— Якая розніца, скажы талкова,
Паміж галоўным сказам і даданым?

Іванка, пераглянуўшыся з сябрамі,
Адказвае талкова, зухавата:
— Галоўны — як выказваецца мама,
Даданы — калі адазвецца тата.

### НЕ ЗРАБІЎ ВАНЯ ХАТНЯГА ЗАДАННЯ

Ваня настаўніка пытае:
— Скажыце мне, ці пакараюць
За гэта вучня ў нашай школе,
Чаго ён не зрабіў ніколі?

Настаўнік кажа: — Знае кожны,
За гэта пакараць не можна.

— Дык не зрабіў, — прызнаўся Ваня, —
Я сёння хатняга задання.

### УЖО ВАСЯ Ў ПЯТЫМ КЛАСЕ

Так дабрадушны ў хаце
Чамусьці тата сёння.
Праверыў замест маці
Ён сына школьны дзённік.

— Бянтэжышся ты ў суме
За двойку, — кажа Вася.
— Ды не, сынок, не думаў,
Што ты ўжо ў пятым класе.



 




(Працяг са стар. 9)

галі дзеці, за якімі ўвесь час сачылі гэтыя двое.

Машына спынілася. Праз хвіліну яе абступіла чародка дзяцей. Яны пачалі здароўкацца. Прыезджыя з вясёлай усмешкай паціскалі працягнутыя ім рукі. Падышлі двое мужчын, ветліва ўсміхнуліся і таксама паздароўкаліся.

Мужчына нешта спытаўся ў Тамба-Тамба і паказаў Валерыю Васільевічу на самую вялікую хаціну. Доктар прыклаў руку да сэрца, падзякаваў старэйшыне і накіраваўся да хаціны. Праз некалькі хвілін ён выйшаў адтуль і падышоў да старэйшыны.

— Бабуля Тамба-Тамба хворая на малярыю. Яе трэба пакласці ў бальніцу. Вечарам прыедзе машына. Я пакінуў лекі.

Старэйшына падзякаваў доктару.

— Вазьміце лекі для дзяцей вашай вёскі, — сказаў доктар і падаў старэйшыне шкляную бутэлечку з жоўтымі таблеткамі. Потым ён азірнуўся і спытаўся ў Тамба-Тамба: — А дзе астатнія жыхары вёскі?

— Жанчыны з маленькімі дзецьмі пайшлі ў поле. Вернуцца толькі перад захадам сонца, — адказаў хлопчык і пацікавіўся: — А гэта праўда, што па маю бабулю прыедзе сапраўдная машына?

— Праўда. Мы пашлём санітарную машыну з чырвоным крыжам на дзвярах.

Усе накіраваліся да машыны, сталі развітвацца. Машына кранулася з месца, а малыя доўга беглі следам, не звяртаючы ўвагі на ўзняты пыл.

**Працяг будзе**

## Вясёлы куточак

### ПРЫЗНАННЕ

— Гэта ты пішаш на сценах брыдкія словы?

— Не. гэта Пецька піша. А я яму дыктую.

**Э. Пятрова.**

### ПЫЛАСОСАМ НА ПАПУГАЙЧЫКА

Маці:

— А дзе ж гэта наш папугайчык? Не відаць, не чуваць...

Дачка:

— Толькі што быў тут. Хвілінку назад я чысціла яго пыласосам.

**Т. Дзмітрусёва**

### КЕМЛІВЫ

— Дзеці, хто з вас пацэліў мячом у акно? — пытае бабуля ў хлапчукоў, якія гулялі ў двары. Малыя прамаўчалі.

— Хто прызнаецца, атрымае цукерку, — паабяцала бабуля.

— Гэта мы з Толем, — падбег трэхкласнік Пеця, паказваючы на малодшага брата, які корпаўся ў пясочніцы.

**М. Сліва**



*Вучні чацвертага класа з Кляшчэляў. Яны ўсе вывучаюць беларускую мову.*
**Фота Я. Чэрнякевіч.**

Алег Назараў




**Заканчэнне.**

**Пачатак у папярэднім нумары.**

Паспрабуй зварыць суп, без якога нават самы смачны абед не абед. Нездарма раней яго падавалі на стол у фарфоравай вазе. Гаспадар урачыста падняў накрыўку, разліваў суп у талеркі... А які арамат стаяў пры гэтым!

А вось рэцэпт на боршч, які навучыў мяне варыць дзядзька Іван.

Вазьмі тры бурачкі сярэдняй велічыні і дзве морквы. Пачысці іх, памый і сатры на буйнай тарцы. Памяшай у місцы і дадай дзве сталовыя лыжкі воцату. Прыкрый міску накрыўкай, дай пастаяць 15 мінут... А потым стаўляй на агонь каструлю з вадой. Дарэчы, колькі трэба вады? Ёсць такое правіла: для супа трэба ўзяць столькі шклянак вады, колькі талерак супу хочаце зварыць, ды плюс яшчэ паўстолькі. Палічы, хто будзе есці твой боршч — мама, тата, брат, сястрычка і ты. Усяго пяць чалавек, пяць талерак супу. Значыць, вады вазьмі 7 з паловай шклянак. Пакуль вада грэецца, дробненька пакрышы чвэрць качана капусты. А калі закіпіць — пакладзі капусту ў каструлю. Зноў давядзі да кіпення. Цяпер укінь моркву з бурачкамі, дадай дробна нарэзаную цыбулю, 1 лыжку памідорнай пасты, лаўровы лісток, тры гарошыны чорнага перцу. Пасалі (палавінка чайнай лыжкі), паспрабуй на смак — добра? Калі не хапае солі, пасалі зноў трошкі і зноў паспрабуй. Вось цяпер добра. Боршч павінен закіпець тры раз і варыцца роўна 5 мінут. Пасля гэтага знімі каструлю з агню і дай супу адстаяцца. Не дапушчальна адкрываць накрыўку ў гэты час, інакш папсуецца ўвесь смак.

Праз 15 мінут разлівай боршч па талерках. Пакладзі дробна парэзаную зяляніну пятрушкі, кропу. Пераканаешся, што ўсім спадабаецца.

А на ласунак пасля абеду...

Чаму б не пачаставаць сяброў маннай халвой уласнай работы?

Вазьмі чыстую патэльню і падрумень на раслінным масле шклянку маннай крупы. Масла можна ўзяць трошкі — усяго тры лыжкі. Пакуль крупа смажыцца, каб не траціць часу, займіся сіропам... Памяшай у вялікай місцы паўшклянкі мёду або джэму з дзвюма шклянкамі гарачай вады і 2 лыжкі цукру. Гэта і ёсць сіроп. Пастаў яго на агонь. Як толькі закіпіць, паглядзі на гадзіннік. Кіпець ён павінен 5 мінут, не больш! А калі міне 5 мінут; знімі міску з агню і залій сіропам манную крупу на патэльні. Калі ёсць пад рукой тоўчаныя арэхі — дадай. І самае галоўнае, дакладна памяшай. Вось і ўсё. Цяпер засталося толькі пачакаць, пакуль халва астыне. Потым парэж яе на кавалачкі. Есці манную халву найлепш з кіслым малаком.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, вул. Сухамбаева, 7, кв. 4. Дзіма Стасюкевіч, 4 кл.

* * *

СССР, 150031, г. Ярославль, ул. Юности, 21, кв. 82. Нефёдовой Наташе, 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 99, кв. 16, Надзя Антонава, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 33, кв. 24. Оля Трацэўская. 5 клас.

* * *

БССР, 220134, г. Мінск-134, вул. Прытыцкага, 91, к. 1, кв. 210. Наташа Папельская. 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 40. Оля Шынкевіч. 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 14. Люда Тарасевіч. 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 43, кв. 58. Света Ліневіч. 3 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 45, кв. 13. Васіліна Макар'ева. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 1, кв. 46. Максім Бажнік. 3 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 169. Ольга Шымко. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 10, кв. 3. Іна Ермаловіч. 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 176, кв. 75. Старавойтава Таня. 7 клас.

* * *

СССР, 163019, г. Архангельск-19, ул. 8 Марта, 12а, кв. 10. Ходий Тане. 8 клас.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Спалучы кропкі ад 1 да 29. Што выйшла?


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка"

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ВЯСЕННЯЯ МЕЛОДЫЯ

Сл. М. Калачынскага
Муз. Ю. Семянякі

*Вясну не гукалі з-за весніц,*
*Пад звон капяжоў ля акна*
*Сама папрасілася ў песню* (2 разы)
*Руплівая наша,*
*Імклівая наша вясна.*

*Прайшла па дарозе шырознай*
*Праз рэкі, палі, гарады,*
*І ўсталі, бы ў казцы дзівоснай,*
(2 разы)
*Бялюткія хаты,*
*Цянюткія нашы сады.*

*Душа ў далячыні імкнецца,*
*Прывольна пад небам ісці,*
*Як светла і добра на сэрцы,* (2 разы)
*Як добра на сэрцы,*
*Як хораша нам у жыцці!*

### АТЭІСТ

У аднаго п'яніцы спыталі:
— Чаму ты лічыш сябе атэістам?
— Таму, што п'ю бязбожна, — адказаў п'яніца.

— Не трэба. Мы жанаты!

## НІЎКА

С. МИЛИЋ

### НЕ ТЫЯ СВЕДКІ

Пад зорным небам. Ён сказаў:
— Няхай гэтыя мільярды зорак будуць сведкамі таго, як цябе кахаю!
— Павінна табе сказаць, — прамовіла яна, — што два сведкі пры рэгістрацыі шлюбу мне былі б больш да спадобы.

*

### ...ЯК ПАДУШАЧКА

— Спякла я сёння, галубачка, пірог свайму мужу. Ды пірог гэты быў такі румяны, бышцам яблык, а пухленькі, як падушачка.

А ён жа, нягоднік, як кіне ў мяне гэтым пірагом у плечы, то так, як каменем. Яшчэ цяпер баліць.

— Я придумал новое упражнение для гимнастики йогов...

Рисунок И. Оффенгендена.

Жанчына для мужчыны заўсёды загадка! Каб разгадаць яе, мужчыны жэняцца або разводзяцца...

Я. Іванаў

## ВЯСНОЙ

Яшчэ не носяцца ў паветры ашалелыя хрушчы, не пікіруюць зухавата на прыгожыя кветкі бэзу, ад якога звычайна і ў старых галовы кружацца... Але вечар павясноваму цёплы. З прыемнасцю прайшоўся б, пашпацыраваў, калі б...

Чорт пабяры, не магу я болей чуць гэтага брыдкага піскляваrа голасу жончынай сваячкі Марылі! Лалдоніць і далдоніць. Манташыць і манташыць. Аніякія таблеткі ад галаўнога болю не памагаюць ужо, хоць па кілаграму іх глытай. Трэцюю гадзіну без перапынку перамывае костачкі сваім суседзям. Ды яшчэ кожны раз крычыць мне з кухні:

— Мікалай Сямёнавіч, ці чулі вы што-небудзь такое?

— Якое... такое?

— Такое, якое...

А каб цябе, родненькая, з тваімі плёткамі! Балаболка няшчасная... Відаць, жонка на кухні ўвесь посуд перамыла, а гэтая — усё балбоча. Яшчэ ж званіць па тэлефоне будзе розным сяброўкам...

— Мікалай Сямёнавіч! Вы чулі? Суседка ў мяне новая... Ага, нядаўна пераехала. Удава — маладая, прыгожая такая...

Ну, вось цяпер пайшла распісваць: колькі ў суседкі мэблі, ды якая, якія сукенкі, ды колькі.

—Апранецца, прыбярэцца — лялька! На такіх мужчыны ляпяць, як тыя матылькі на святло... Ой, не пашанцавала жанчынам з нашага пад'езда, ха-ха-ха! Каго-небудзь абавязкова падчэпіць...

— А раптам твайго Трафіма, Марыля? — не вытрымлівае і кіпіць жонка. — Пакідаеш заўсёды аднаго... Глядзі, дзеўка! Не дарма гавораць: сівізна ў бараду — чорт у рабро...

— Ха-ха-ха! — зноў весела рагоча Марыля. — Майго дзеда... падчэпіць? Ды яму, дзівачка, акрамя тэлевізара нічагусенькі не трэба... Хочаш, зараз нават пазваню мужу — раскажу, як ты тут яго бэсціш... Пасмяецца! Ці не, не, дзынкну лепш гэтай удаўцы, не пацешу, гаротніцу...

У прыадчыненыя дзверы я бачу, як таўставатая Марыля сунецца калідорам да тэлефона, набірае нумар і пачынае манерна „алёкаць".

— Алё, алё... Мабыць, яна спіць ужо? Алё! Хто гэта? Трафім?! Што ты там робіш?!

— ...

— Тэлевізар глядзіш?! Свайго нямашака, га? Вось як... Вось як...

Ну і фокус, ну і нумар!

Ачумела Марыля, маўчыць, усхваляваная, гнеўна дыхае ў тэлефонную трубку. Умомант знікае ўся яе напышлівасць, гарэзлівасць, твар пакутліва моршчыцца, чырванее: вось, вось заплача. Мінае хвіліна, другая, і пякучая рэўнасць ахоплівае жанчыну. Ужо дрыготкім, нейкім чужым трагічным голасам яна паўтарае:

— Ён там... У яе...) Там ён...

Якія толькі грэшныя карціны не малюе яе ўяўленне!

Жонка спачувальна абдымае сваячку, супакойвае: „Ну і што, калі зайшоў, ну і што?" А я... Я, здаецца здагадваюся, у чым справа. Як следчы, строга пытаюся:

— Марыля, куды ты хацела пазваніць спачатку?

— Дамоў...

Раптам Марыля робіць вялікія вочы, пазірае на мяне, здзіўляецца, атарапела, а потым скеміўшы, пачынае нервова смяяцца і ўжо не гаворыць, а радаена, шчаслівa крычыць у тэлефонную трубку:

— Трафімка, я зараз жа еду!

Едзь, галубка... Нарэшце!



Пунктуальнасць
Малюнак У. Гальбы.

### КОНІ

Коні верна служылі і служаць чалавеку.

Хто меў дачыненне з коньмі, добра ведае, што яны разумныя і інтэлігентныя істоты, а апрача таго вельмі чыстыя. На жаль, за свае пакутлівыя паслугі наогул не былі належна шанаваныя, хаця здаралася, што некаторыя імператары ставілі коням помнікі і нават узнагароджвалі іх медалямі. І зусім было б нармальна, каб у сельскагаспадарчых мясцовасцях дзе-ніздзе стаялі помнікі — коні.

Але я хачу сказаць некалькі слоў аб іншых конях, аб конях двуножных і двуручных, аб гандлярах замежнай валюты, якіх называюць „коньмі".

Аб гэтых „конях" не скажаш, што яны цяжка працуюць для дабра чалавека, і не дапусціш думкі нават стаўлення ім помнікаў. Яны нажываюцца на гандлярстве, не плацяць падаткаў ды і з сумленнасцю іх бывае па-рознаму.

Адзін „конь" расказваў, што ў Будапешце два гады гандляваў доларамі, а па дакументах лічылася, што ён ходзіць штодзённа на работу. І ўсё ў парадку, і нават стаж працы не прападае. Не жыццё, а маліна.

(МХ)



Чалавек дыхае вальней, калі трымае язык за зубамі.